

# РАТУША



**№ 19 (28)**
**КАСТРЫЧНІК 1992г.**
**Кошт 2 руб.**

**Магілёўская дэмакратычная газета**

## Сёння ў нумары



ЗДЫМАК У НУМАР



**«Святая старасць»** **Фота А.Ліціна.**

# 1 кастрычніка — Дзень пажылога чалавека

## Упершыню і, дай Божа, назаўсёды

*10 год таму назад Генеральная асамблея ААН адобрыла міжнародны план дзейнасці па праблемах старэння. У мінулым годзе камісія сацыяльнага развіцця ААН рэкамендавала кіраўніцтву дзяржаў-членаў ААН адзначыць гэтую падзею і вызначыць праграму паляпшэння жыцця пажылых людзей, а таксама аб'явіла 1 кастрычніка Міжнародным днём пажылых.*

### Ў МАГІЛЁВЕ АДЗНАЧАЕЦЦА ДЗЕНЬ ПАЖЫЛОГА ЧАЛАВЕКА

У нашым горадзе каля 100 тысяч пенсіянераў. На думку арганізатараў свята, ні адзін з іх не павінен застацца без увагі. На нарадах па падрыхтоўцы да свята рэзала слых тэрміналогія: «усе павінны быць ахоплены» і г.д. Адразу ўзнікла сумненне наконт таго, што «ахоплены» будуць усе. Каб яно знікла, тэлефаную загадчыцы аддзела па сацыяльных пытаннях Н.Е.Тарасенка: «Якім чынам будзе ажыццяўляцца гэтае «ахопліванне»?

— Праз прадпрыемствы, ЖЭУ, аддзелы сацзабеспячэння і інш.

— А ву-у-нь тая бабулька на лаўцы ў двары, якая ўжо шмат год грэецца на сонейку, за старадаўнасцю год наўрад ці чула пра свята, — яна ўласна як-небудзь адчувае яго на сабе?

— Калі ласка, калі яна не ўключана ні ў якія спісы, хай звяртаецца да нас. Мы абмяркуем яе праблемы. Можам адразу ж аказаць гуманітарную дапамогу.

Пачуўшы пра правядзенне ў горадзе Дня пажылога чалавека і зразумеўшы, што ён абяцае, магілёўскія старыя заселі за тэлефоны, пацягнуліся ў адпаведныя службы са сваімі праблемамі.

У аддзеле па сацыяльных пытаннях гарвыканкама тэлефон літаральна разрываецца ад званкоў: просяць дапамагчы з палівам, адрамантаваць хату, даць ежы, адзення.

### СВЯТА ДЛЯ СТАРЫХ.

Бедныя нашы старыя... Вашай старасці не пазайздросціш у злую для вас гадзіну — развенчаных ідэалаў, разбітых падзей, вар'яцкага росту цэн.

Сёння вас чакаюць падарункі, кветкі, цёплыя словы. У праграме свята — абзорныя экскурсіі па гораду, бясплатны паказ кінастужак мінулых год. У цэрквах адбудуцца благачынныя малебны. У Салтанаўцы для састарэлых будзе зроблен абрад паспавядання, царкоўны хор выступіць перад яго насельнікамі.

На пляцоўках горада адбудуцца канцэрты, удзельнікі мастацкай самадзейнасці выступяць у шпіталі, для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Вучні музыкальных школ наведаюць старых, прыкаваных да ложкаў, парадуюць іх сваім мастацтвам.

У 16 гадзін у Палацы піянераў і школьнікаў пачнецца ўрачысты вечар. Яго ўдзельнікам уручаць кветкі, гуманітарную дапамогу. Адбудзецца святочны канцэрт. Перад пенсіянерамі засведчыць сваю пашану мэр горада С.Габрусеў.

Потым у суправаджэнні духавога аркестра ўдзельнікі свята пойдуць у Камсамольскі сквер, дзе паслухаюць музыку ў старых рытмах, а таксама разгарнецца палявая кухня з бясплатнай салдацкай кашай.

Што датычыцца кашы, мяне яна няшмат сароміць. Ці не перахапляюць тут арганізатары свята? Наколькі этычна гэта будзе ў адносінах да старога пакалення, калі на вачах ва ўсіх яны будуць есці гэту кашу? А яна, напэўна, будзе грэчкавая, смачная, карысная — многія старыя даўно запамятавалі яе смак. Але лепш было б падаць гэту кашу ў сталовых на шматлікіх благачынных абедах, якія адбудуцца на працягу святочнага дня, а не ўладжваць відовішча для раззявак. Зрэшты, гэта мая асабістая думка...

### І ЦІМУР БЫ ПАРАДАВАЎСЯ

Падобнае свята адбываецца ў нас упершыню. Яно прываблівае сваёй чалавечнасцю, дае ведаць аб тым, што не ўсё яшчэ рассыпана ў прах і наша грамадства не ператварылася ў стаю ваўкоў, дзе выжываюць мацнейшыя. Дабро і міласэрнасць жывыя, гэта дае надзею.

Кіраўніцтва металургічнага завода выдзеліла сваім пенсіянерам адзін мільён рублёў на матэрыяльную дапамогу. 260 адзінокіх састарэлых Ленінскі райвыканкам забяспечыць бульбай за свой кошт. 50 чалавек атрымаюць па 500 рублёў. Цэнтральны райвыканкам выдзеліў 200 тысяч рублёў на ўстаноўку тэлефонаў інвалідам і ветэранам Айчыннай вайны.

У Кастрычніцкім раёне для ўдоў, мужчыны якіх загінулі на вайне, будзе арганізаваны благачынны святочны абед. Набыта пасцельная бялізна для немаёмных. Гэты спіс можна прадоўжваць.

У падлеткавых клубах, школах, ПТВ створаны цімураўскія атрады, якія пабываюць у цяжкахворых, прыбяруць у іх хатах, вымыюць і ўцепляць вокны.

На працягу падрыхтоўкі да Дня пажылых былі даследаваны ўмовы жыцця большасці пенсіянераў. У Кастрычніцкім раёне, напрыклад, выявілі чатырох чалавек ва ўзросце ад 101 да 104 год. Натыкнуліся на двух зусім бездапаможных чалавек, якія не маглі абыходзіцца без пастаронняй дапамогі і пакутвалі ў адзіноце. Іх хутка адправілі ў дом састарэлых.

Як заверыла Н.Е.Тарасенка, клопаты аб пажылых людзях не стануць акцыяй або чарговай кампаніяй. Гэта праца будзе праводзіцца ўвесь час.

Ну што ж, уцешна слухаць. Як гэта будзе на самай справе, нашы старыя змогуць упэўніцца ў бліжэйшы час пры атрыманні ў домаўпраўленнях «гарэлачна-цукарных» талонаў, за якімі яны кожны раз выстойваюць па некалькі гадзін.

Але, сёння свята! І многія старыя праслязяцца ад праяўленага да іх клопату і чалавечнага ўдзелу. Гэта добрыя слёзы. Няхай яны з'яўляюцца толькі па гэтай прычыне.

**В.СЕРАКОВА.**

### Ленін думае пра Магілёўшчыну.

Нядаўна выйшаў рэспубліканскі каталог часопісаў і газет на 1993 год, своеасаблівы дапаможнік для падпісчыкаў. Адчыняю старонку магілёўскіх раённых газет. І адразу ствараецца ўражанне, што павадыр працоўных, тэарэтык марксізму У. І. Ленін днямі не вылазіў з Магілёўскай вобласці, ствараючы там марксісцкія гурткі і першасныя ячэйкі РКП (б). У канун 1992 года каля 8 раённых газет (з 26) носяць ленінскае імя.

Так, памяць аб Леніне павінна захавацца. Але не ў такім сэнсе, калі малавядомыя раённыя газеты носяць імя чалавека, які, магчыма, і не ведаў аб гэтых месцах. А пакуль у Горках і Дрыбіне выходзяць «Ленінскі шлях», у Асіповічах — «Запаветы Леніна», у Крычаве — «Ленінскі кліч», у Слаўгарадзе — «Ленінскае слова», у Чэрыкаве — «Заклік Ільіча». Карціну дапаўняюць газеты «Шлях Кастрычніка» (Хоцімск), «Іскра» (Чаўсы), «Святло Кастрычніка» (Мсціслаў). Добра хоць па-беларуску.

**АЯКС.**

### ЦЫТАТА НУМАРА.

*«Я быў у Магілёве, дзе было рыма-каталіцкае сьвята Божага Цела. Гляджу, нашыя цёткі, якія па-польску ні слова не ведаюць, ідуць і сьпяваюць польскія песьні — навучыліся адну зваротку ў чатыры радкі і паўтараюць бясконца адно і тое ж. Нашто ж гэта ксёндз змушае іх да гэтага? На беларускай мове таксама ўсё гучыць прыгожа. Я чуў, што пры касцёле адкрываюць школу навучання польскай мове. Прычым тут польская мова да каталіцкай рэлігіі, калі мы ёсьць беларусы? Вучы іх па-беларуску Закону Божаму, а не польскай мове. Гэта ўжо не твая справа, яна не мае нічога супольнага з царквой».*

**Айцец Аляксандр НАДСАН,**
**уніяцкі беларускі святар з Англіі.**
З інтэрв'ю газеце «Свабода» (Менск, № 7-8, верасень 1992 г.).

### ХРОНІКА

● 16.09.92. па ініцыятыве старшыні Магілёўскага гарвыканкама Габрусева С. А. адбылася яго сустрэча з прадстаўнікамі дэмакратычных рухаў г. Магілёва. На сустрэчы абмяркоўваліся пазіцыі, па якіх два бакі могуць дасягнуць згоды.

● 23.09.92. адбылося паседжанне абласной каардынацыйнай Рады дэмакратычных плыней. Ішла размова аб падрыхтоўцы да рэферэндума і аб адносінах да Магілёўскага гарвыканкама. Вырашана ў бліжэйшым месяцы правесці канферэнцыю па стварэнню абласной арганізацыі БНФ.

● 23.09.92. адбылася сустрэча сяброў суполкі «Машэка» з кіраўнікамі раённых Дамоў культуры ў Гарадскім Доме культуры. Сябры «Машэкі» распавядалі пра дзейнасць аб'яднання, яго прынцыпы і перспектывы. Адбылася цікавая размова аб ролі беларускай мовы і культуры ў нашым жыцці, аб перспектывах БНФ.




# ДЫСКУСІЙНАЯ ТРЫБУНА

Рэзананс

## Споведзь ваяўнічага дылетанта

У № 16 нашай газеты пад рубрыкай «Погляд» быў надрукаваны матэрыял Яўгена Крушні «Слова да рускамоўнага брата». Аўтар у лагічнай аргументаванай форме звяртае свае словы да рускамоўных беларусаў. Адказ не прымусіў доўга чакаць. Публікацыя вызвала моцны парыў пачуццяў магіляўчаніна Яна Міхайлавіча Сперксіса, які даслаў нам ліст.

«Спадар рэдактар, — піша ён, — надеюсь, что в соответствии с «Хартией свободы печати», п. 6 вы напечатаете мое мнение. В июльском журнале (№ 28) «Совершенно откровенно» было напечатано два разных мнения. Одно — мнение национального партизана («Лесные братья») и второе мнение — мое, бывшего солдата спецвойск НКВД в 1953 году. Мы стреляли друг в друга, а редакция журнала дала нам высказаться. **Учитесь свободе печати».**

Мы вырашылі «далёка» пайсці ў свабодзе друку і надрукаваць ліст, не выкідваючы яўных абраз, вульгарных выразаў, робячы толькі невялікія арфаграфічныя праўкі. Як вядома, аўтары матэрыялаў нясуць поўную адказнасць за верагоднасць прадстаўленага матэрыяла. Тым больш, што сп. Сперксіс робіць такую заяву: «Если кто-то оскорбится от моих прямых солдатских «выстрелов» в свой адрес, можете подать на меня в нар. суд по ст. 156. «Оскорбление по КАП Республики Беларусь» от 23.04.92 г., где предусмотрен штраф до 1 тыс. руб. Пенсия у меня 1423 руб. и я заплачу».

Кіруючыся прынцыпамі галоснасці і свабоды друку, мы вырашылі надрукаваць матэрыял амаль без скарачэнняў. Спадзяёмся, што гэты ліст дасць вам, паважаныя чытачы, поўнае ўяўленне аб тыповым рускамоўным Яне Сперксісе, як ён сябе называе. Рэдакцыя не дае каментарыяў, і спадзяецца, што чытачы зробяць высновы самі.

**Рэдактар газеты «Ратуша»**
**А.СЕРДЗЮКОЎ.**

## Гневная реплика, или «Нож в живот»

В Библии сказано: «Тебя ударили по одной щеке, подставь другую». За точность не ручаюсь, но примерно так. А я придерживаюсь формулы: «Тебя ударили по лицу — бей ножом в горло или живот!» Этому меня научила моя тяжелая жизнь и 9 лет армии.

Я прочитал всего два номера газеты «Ратуша». Первый — из интереса к газете, второй взял у одного из пассажиров на автовокзале, т.к. необходимо было ждать автобуса. Из первого номера я сразу понял, что газета чуть-чуть «желтенькая». Хотя надо отдать должное, статья об истории Белоруссии в период Польско-Литовского государства интересная, хотя и спорная. Я сам прибалт и являюсь Президентом Союза Литва-Балтия в Могилеве. Все остальное — абракадабра на «волне» БНФ, возглавляемого kleine furerom belowtien folk З. Позняком. Я не агрессивен, но хочу сказать, что виктимологическую ситуацию в РБ создают «правадары» типа З.Позняка и Н. Рословой.

Белоруссия в силу причин, скорее от Бога (хотя его нет), оказалась на перекрестке войн и движения народов. Она должна быть билингвистичной, а не монолингвистичной. Два славянских языка-брата могут мирно уживаться рядом, не мешая один одному. Маленький двухмесячный мой внучек, когда хочет есть, говорит: «Ням! Ням!» А это на каком языке? Русском или белорусском? «Ням! Ням!» и в Африке «Ням! Ням!» А если это скажет Е.Крушня в африканских джунглях, то его действительно «изнямнямают» какие-нибудь людоеды. А на каком языке с белорусским диалектом говорит какой-нибудь алкаш продавщице в магазине: «Ну ты, лахудра! Дай-ка вон ту хреновину!»

Автор статьи «Слово к русскоязычному брату» Е.Крушня с «чужого голоса» пишет:... трезвые (?) украинские головы понимают, что Россия — это большая азиатская страна, где много дикости (?), водки (?!), обломовщины...» Есть грубая солдатская пословица: «У хохла голова варит до обеда или после». Видимо, такое утверждение о России было сделано каким-то хохлом, принявшим стакан горилки до обеда на тощий желудок. Ни один нормальный человек, если он еще и культурный, не скажет так о стране Державина, Ломоносова, Пушкина, Лермонтова, адмирала Макарова, Ожегова, Даля и хотя бы Королева с Л.Н.Толстым. Не стану перечислять общеизвестных истин, но такой «плевок» в адрес Родины моей жены, с которой я живу 35 счастливых лет (у нее воевали три брата, освобождая Белоруссию, с октября 1943 по июль 1944 г., а Сергей, средний брат, умер в 28 лет от ран, полученных на белорусской земле) «взорвал» меня. На «пощечину» я отвечаю «ударом ножа в глаз». А что «слепой» Е.Крушня, то это точно; попробую раскрыть ему глаза.

Янка Купала и Якуб Колас разве не алкаголики? Я.Купала упал с лестницы на своей даче под Москвой «пьяный в доску», а сказали, «трагічна памёр».

Во время войны в белорусской полиции и белорусской краевой охране верно служили Гитлеру до 356 тысяч человек (не путать с полицейскими из России, украинскими казаками). Это белорусские полицаи сожгли Хатынь, а «кидали тень на плетень», т.е. на полевые войска СС. Белорусские историки, эти дешевые «путаны», спали в постели КПБ-КПСС за ломаный грош. Если прибавить до 350 тыс. остарбайтеров, из которых 23 тыс. поехали добровольно работать на Гитлера, то тогда возникает вопрос: «Белоруссия партизанская или полицейская?» Партизан на территории республики было 312 тыс. человек. Если отнять 32 тыс. евреев-партизан, а также русских, армян, грузин и прочих непокоренных из числа окруженцев, то получается, что число белорусских партизан было от силы от 80 до 100 тыс. человек.

Вот так, спадар Е.Крушня, «бьют ножом в горло» трезвые (а я не пью и не курю) «чужынцы». Да, мы «чужынцы», но судьба сложилась так, что второй родиной мне и другим «чужынцам» стала Белоруссия. И никогда ваша «мова нам не перашкаджала». Я за развитие национальной культуры и языка, но когда на мою седую голову начинают лить «помои», мне хочется взять ручной пулемет и поставить этих «помойщиков» к «стенке».

В 1947 г. я приехал восстанавливать разрушенный войной Могилев из Хабаровска, т.е. из «дикой азиатской» окраины России, Дальнего Востока, куда нас, прибалтов, в 1940 г. депортировали. Жителям РБ нельзя так пренебрежительно отзывается о народе и его Родине, который освободил Белоруссию от германских захватчиков и их белорусских «шавок». Это Россия вместе с другими республиками бывшего Союза оказали Вам помощь в восстановлении разрушенного.

Как сказал два месяца назад С.С.Шушкевич в телеинтервью: «Давайте бросим эти недостойные нашего народа термины: российская империя, российская оккупация и т.д. Нам жить с Россией, мы с ней делили горе и радость, нам и дальше надо сохранять братские отношения».

Не Россия и не «русскоазиатский алкогольный» народ подбросил тему о Виленском крае. Вы видно «з глузду з'ехалі», спадар Е.Крушня, это Горбачев подбросил такую мыслишку ЦК КПБ. Кроме того, это высказал в ноябре 1991 г. Белорусский Собор о Вильне, исконном (?!), белорусском (?!) городе. А после моей статьи «Зальем поля Белоруссии кровью, как заливали поля Европы», эти «веселые ребята» после вызова в Прокуратуру РБ сидят тихо, как мыши, когда ходит кот возле норки.

А что касается автора Е.Крушни, он видимо сбежал из Печерска до того, как там побывала корреспондентка «Ратуши» (ад рэд.: гл.№16ст.4), откуда она дает свой репортаж в том же номере, где и мой «беларускамоўны брат» (?!) А вот такого «брата» видел я в гробу в белых тапочках. О таких людях говорят: «У него вавка в голове, и доктор на таких не обижается, когда болит голова, а он лечит ноги!»

Спадар Е.Крушня, «лечите» голову, а не ноги, не повторяйте глупости за дурными украинцами, уважайте себя, имейте свое мнение. А нам надо вместе, «рускамоўным і беларускамоўным», жить мирно, тихо и спокойно. Все нам завидуют, что Белоруссия «тихая гавань».

Где Вы все были вчера? Носили партбилеты и тихо молчали? Это Ваша интеллигенция, Ваши Нилы Гилевичи и Вы лично сидели тихо и молчали, допустили до того, что стал исчезать белорусский язык и культура.

Уверенные в своей правоте сгорели на костре Джордано Бруно, Ян Гус, Жанна Д'арк и другие смелые и упрямые люди. Что же вы вчера не шли на костер? Кто из вас Джордано Бруно? А русская пословица гласит: «После драки кулаками не машут». Вот так, шаноўны спадар Е.Крушня. Ну и как мой «ножичек в горле?»

**ЯН СПЕРКСИС**
**русскодумающий, русскоговорящий, знающий 9 иностранных языков, читающий и понимающий, но не говорящий на белорусском языке, живущий в Белоруссии 45 лет.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** *Услед за Я. Сперксісам хочацца ўсклікнуць: «Ну як вам яго ножычак у горла?!» Раім пазнаёміцца з артыкулам Я. Крушні і зрабіць высновы «Кто прав, кто віноват». Ад сябе толькі дададзім: некаторыя матэрыялы яўна без усялякага глузду (інфармацыя аб смерці Купалы і спаленні Хатыні). Вядома, што Хатынь спалілі ўкраінскія паліцэйскія, а Купалу забілі НКВдзісты Другія аргументы пабудаваны ў стылі «сам дурак!» (тыпу «видел в гробу в белых тапочках», «сбежал с Печерска»). Але як бы там ні было, як мы яе назвалі, споведзь ваяўнічага дылетанта закранае цікавыя моманты ў псіхалогіі і гісторыі беларускага народа. Чакаем вашых водгукаў.*

## Дзе ваша Айчына?

*«Белоруссия — это передовой рубеж обороны».* **З выступлення генерал-палкоўніка Кастэнка на сесіі ВС Беларусі.**

З вялікай увагай прачытаў у «Народнай газеце» артыкул Сяргея Гайдукевіча «Никогда не дам бить «своих» друзей». Вельмі карысны артыкул, бо ён прамым тэкстам выклаў светапогляд большасці афіцэраў Беларусі расійскага паходжання.

Аказваецца, яны малайцы, бо ўжо стварылі беларускую армію, пазаймаўшы ўсе генеральскія і камандныя пасады ў Міністэрстве абароны.

А я, афіцэр запасу былой арміі Саюза, так не лічу. Па сутнасці сённяшняя армія— гэта расейская армія з усімі яе негатывамі, і я магу і не служыць у ёй, паколькі прысягу даваў зусім іншай арміі? Беларускай арміі на сённяшні дзень не існуе.

Возьмем другі пункт — «боль и страдание офицеров, не имеющих жилья и элементарных человеческих условий для семей, но честно служащих нашей республике». Беларусь сёння не зможа забяспечыць жыллём усіх афіцэраў былой саюзнай арміі. Так як Расія стала пераемніцай Саюза, то забеспячэнне жыллём афіцэраў былога Саюза — гэта яе справа. Ва ўсялякім выпадку, прасіць афіцэры Беларусі ўрад могуць, патрабаваць — не.

Дзяржаве Беларусь патрэбна армія да 50-60 тысяч чалавек, войска тыпу дэсантных, марской пяхоты, зведзеных у брыгады, з высокай якасцю падрыхтоўкі. Яшчэ дваццаць гадоў назад падрыхтоўка савецкіх войск не адпавядала часу. Тады ўжо было ясна, што дывізіі і арміі — гэта гарматнае мяса, што і паказаў **Афганістан**, палёт Руста, пажары на падводных лодках, дзедаўшчына, спекуляцыя зброей.

Нас, беларусаў, павінны хваляваць свае праблемы. У нас больш 2,5 млн. чалавек Магілёўскай і Гомельскай вобласці жывуць у радыяцыйнай зоне. Па даных японскіх навукоўцаў, ад ракавых захворванняў памрэ больш дзвесце тысяч маіх землякоў. Ужо некалькі маіх лепшых сяброў памерла ад інфарктаў і інсультаў. І мая праўда, таварыш Гайдукевіч, страшней вашай праўды. У вас няма кватэр, у мяне няма будучага. І ніхто не збіраецца «біць» вашых сяброў, афіцэраў іншых нацыянальнасцяў. І ніхто вас не выганяе. Вы знаходзіцеся ў еўрапейскай дзяржаве і проста павінны ведаць правілы, якія існуюць у еўрапейскіх краінах.

І зноў чытаю вашы словы: «Может, я прокаженный и недостойный жить в Белоруссии? Может, мне со своими детьми бежать? Нет! Никуда я не поеду». Я вас разумею. Вам некуды дзецца. У вас няма Айчыны. Вы чужы ў Таджыкістане. Акрамя таго, што ваш дзед таджык, вам там больш няма чаго сказаць. І Беларусь для вас толькі тэрыторыя. І ў Расію чамусьці не хочаце вяртацца. А 40 тысяч афіцэраў-беларусаў хочуць вярнуцца на сваю Айчыну. Маюць яны на гэта права? Маюць! Палохаючыся канкурэнцыі з іх боку, заняўшы ўсе камандныя пасады ў Міністэрстве абароны Беларусі, вы так старанна не хочаце мець справу з беларускімі афіцэрамі. Сёння вось гэтыя 80% рускіх афіцэраў, афіцэры запаса, расійская армія на нашай зямлі — гэтая пятая калона ў Беларусі, што і паказалі падзеі ў Малдове.

Мне здаецца, што большасць расійскіх афіцэраў, у якіх ужо склаўся свой жыццёвы светапогляд, няздольны займацца стварэннем нацыянальнай арміі Беларусі. Усе яны шукаюць сінекуры. І сведчанне гэтаму — вашы дзеянні па абмежаванню дзейнасці БЗВ, таму вы і пішыце ў сваім лісце: «Так вот создано уже, уважаемый автор, белоруское войско, вакуум вашей деятельности заполнен, а патриотической деятельностью будут заниматься государственные структуры, которым законом определено это право».

Значыць, генерал-палкоўнік Кастэнка і ўсё рускае афіцэрства будуць займаца патрыятычным выхаваннем беларускіх салдат.

Але ж для рускіх «Белоруссия — передовой рубеж обороны», а для мяне Беларусь — апошняя мяжа. Яны могуць прайграць бітву за Беларусь і ім ёсць куды адступаць. А я не магу прайграць бой за сваю Радзіму.

І таму мы павінны спадзявацца толькі на саміх сябе. Мы павінны стварыць сваю дзяржаву, якая абароніць нашы інтарэсы і інтарэсы нашых дзяцей. І адным з элементаў гэтага працэса стварэння з'яўляецца нацыянальная армія Беларусі

Вы ў сваім лісце кажаце: «Да я зубами буду рвать Ваши идеи». Як я зразумеў, вы супраць нацыянальнай ідэі, якую ўвесь свет даўно ўжо вельмі паспяхова выкарыстоўвае. Фінляндыя, Нарвегія, Ісландыя, Германія, Францыя — усе яркія прыклады таму.

Так, яўрэі цудоўна разумеюць, што народ, які не мае сваёй дзяржаўнасці, — другога сорту. Яны адрадзілі сваю старажытную мову. Геніяльны поспех! І ў гэтым поспеху галоўную ролю выканала нацыянальная ідэалогія, якая перадавалася праз іхнюю веру.

*Таму мы, беларусы, павінны выкарыстаць гістарычны момант. Мы з'яўляемся мананародам (80% насельніцтва Беларусі). Нацыянальная ідэя мае магчымасць пабудаваць моцную і дэмакратычную еўрапейскую дзяржаву.*

*І таму вам, спадар Гайдукевіч, неабходна разам з вашымі сябрамі, у сваёй душы даць адказ самім сабе, каму вы будзеце служыць: імперскай Расіі ці незалежнай Беларусі? Нам патрэбны сумленныя людзі, з разумнай галавой і цвёрдай воляй.*

*Сёння існуе адзін крытэрый ісціны: хто служыць Беларусі, той падтрымліваецца народам, а хто ідзе супраць нацыянальнага адраджэння, той не можа займаць кіруючыя пасады ў арміі, ва Урадзе, у Вярхоўным Савеце.*

*Шукайце сваю Айчыну, спадар Гайдукевіч. І пабяражыце зубы!*

**Кастусь ЯСЕНЬ.**






# ЭКАНОМІКА І ЧАЛАВЕК

## Багатыя багацеюць, бедныя становяцца бядней

*Гэта банальная мудрасць нашай рэчаіснасці ў многіх на вуснах. Мы вырашылі праверыць блізкасць яе да ісціны шляхам мініапытвання.*

*Такім чынам, у які бок змянілася ваша жыццё з пачатку гэтага года — у дрэнны ці лепшы?*

**Нікалаеў, 37 год, інжынер:**

— Маё жыццё і жыццё маёй сям'і ніяк не змянілася ні ў той ні ў іншы бок.

— Значыць, усё нармальна?

— На фоне таго, што адбываецца зараз у краінах пасля развалу Саюза — так, цалкам нармальна. Што датычыцца праблем, то мяне вельмі хвалюе будучыня маіх дзяцей.

**Галіна Т., 34 год, маці трох дзяцей, знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску па догляду дзіцяці:**

— Вядома, ў дрэнны бок. Аб гэтым і гаварыць няма чаго. Нам катастрафічна не хапае грошай, таму што жывём на зарплату мужа і дзіцячыя дапамогі. Калі ў мінулым годзе мы яшчэ цешылі сваіх дзетак ласункамі, то сёння купіць цукеркі, марожанае нам не па кішэні.

Прыкметна абмежавалі спажыванне садавіны. Увогуле, жыццёвы ўзровень нашай сям'і ў гэтым годзе вельмі знізіўся.

Адзіны спосаб павысіць яго — пайсці працаваць, калі скончыцца дэкрэтны водпуск. Я працую інжынерам на прадпрыемстве. Але зараз там адбываецца вялікае скарачэнне штатаў. Я больш за ўсё баюся беспрацоўя. Гэта жудасна, калі мяне выкінуць на вуліцу.

Часам у галаву прыходзяць думкі — божа, чаму перабудова не пачыналася раней? Тады я б не раджала. Альбо наадварот, навошта яна была наогул патрэбна?

Сэрца сціскаецца, калі мае дзеці глынаюць слінкі ў краме, гледзячы на цудоўныя ўпакоўкі замежных цукерак. Яны не просяць, разумеюць, што ў бацькоў няма грошай. Але я пры гэтым адчуваю сябе вельмі кепска. Лепшая забава маёй малодшай дачкі — нюхаць абгорткі ад цукерак і жвачак, якія збіраюць старэйшыя дзеці.

**Сям'я С. з Гомельскай вобласці. Таццяна, 25 год. Леанід, 30 год, сыну 4 гады.**

— Больш у лепшы бок. У гэтым годзе мы маглі дазволіць сабе некаторыя пакупкі, аб якіх раней толькі марылі. Праблем, безумоўна, хапае, але цалкам, калі параўноўваць матэрыяльна, мы сталі жыць лепш. Падманваць не будзем.

**Наталля, 14 год:**

— Ніяк не змянілася.

— Мяркуючы па вопратцы, яна ў цябе ад «Спартака»? Усе атрыбуты ў наяўнасці: «Мальвіны», красоўкі і г.д.

— Так, але аб гэтым я марыла яшчэ ў мінулым годзе. А зараз мне патрэбны зусім іншыя рэчы. Мне не пашанцавала з бацькамі. Яны мала атрымліваюць грошай, дык яшчэ клапоцяцца аб сваім сумленным імені. А навошта мне яно? На сябе не напнеш...

Якія праблемы мяне хвалююць больш за ўсё? Калі бацькі замест таго, каб лезці да мяне са сваёй мараллю, купяць мне прыстойныя шмоткі — ніякіх праблем не будзе...

**Баба Вера, 73 год, пенсіянерка:**

— Зразумела, дрэнна сталі жыць. Вы пабачце, якія цэны. Гэта ж з глузду з'ехаць можна! Адзін кілаграм панцаку — 20 рублёў! Буханка хлеба — 10. Што ж гэта, дзетачкі, далей будзе?

— Бабуля, вам не хапае вашай пенсіі на месяц?

Мне хапае, старому не шмат патрэбна. Гэта вам, маладзейшым, жыць патрэбна. А жыццё зараз дарагое. І смерць, дзетачкі, таксама. Не дагоніш, каб класці на пахаванне. А ў цяжар нават дзецям родным быць не хочацца. Не хочацца, ды, відаць, давядзецца (баба Вера заплакала).

Прабачце, бабуля, за вашы слёзы. На жаль, яны таксама з'явіліся адказам на наша пытанне.



**НА ЗДЫМКУ: адыходзяць ад нас ветэраны, так і не дачакаўшыся «светлага жыцця...»**

**Фота В. БЫСАВА.**

*Выказванняў гараджан можна прывесці яшчэ шмат. Але большасці з іх характэрна незадаволенасць вялікімі цэнамі на харчаванне і аддзенне, на бытавыя паслугі, праезд у транспарце і г.д. На ўсё тое, ад чаго залежыць якасць нашага жыцця. Пры ўсім гэтым вялікая частка гараджан, скардзячыся на вышэйназванае, прызналіся, што іх жыццё ў матэрыяльных адносінах у дрэнны бок не змянілася, а хутчэй наадварот. Гэта, як правіла, сем'і, у якіх адно дзіця і ёсць дах над галавой, і, зразумела, абое бацькоў — працуючыя.*

*Што датычыцца інвалідаў, шматдзетных сямей, адзінокіх маці і старых, — іх жыццё з кожным днём становіцца ўсё горш. «Бедныя робяцца бядней» на вачах. Багатым застаецца багацець.*

**В. СЕРАКОВА.**

## Будні міліцыі

**Напружана працуюць супрацоўнікі міліцыі Магілёўскай вобласці. Для выканання вядомага патрабавання Саўміна Рэспублікі Беларусь па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю, забеспячэнню бяспекі людзей, захаванасці іх маёмасці кожны дзень прыходзіцца вырашаць ім нечаканыя і моцныя жыццёвыя крыжаванкі.**

### Усё вырашылі майстэрства і секунды.

Устрывожаныя стрэламі ў кватэры аднаго з дамоў па бульвары Непакораных суседзі спешна тэлефанавалі «02». На месца выехала аператыўная група УВД, узначаленая адказным дзяжурным, падпалкоўнікам міліцыі В.Харланчуком. З'явіліся і супрацоўнікі з Кастрычніцкага РАУС, блакіраваўшыя падыходы к дому.

Амаль паўтары гадзіны супрацоўнікі міліцыі ўгаворвалі хлопца, прыставіўшага к уласнай галаве ствол паляўнічай стрэльбы, не націскаць на курок. І толькі потым начальнік аддзялення прафілактыкі Кастрычніцкага РАУС А.Іваноў, скарыстаўшы зручны момант, майстэрскі прымяніў прыём самба.

Жыццё чалавека было выратавана.

### Трук не атрымаўся.

Пасля начнога званка з вёскі Лабанаўка супрацоўнікі Чэрыкаўскага РАУС на чале з намеснікам начальніка аддзела В.Шнейдерам выехалі на месца злачынства. Аб ЧП давялі да ведама ўчастковага інспектара В.Сямёнава і другіх супрацоўнікаў. Шлях злачынцы ад харчовага магазіна быў адрэзаны.

У свеце аўтамабільных фар быў добра бачны разабраны кавалак даху. Падстрахоўваючы адзін аднаго, супрацоўнікі міліцыі наблізіліся да магазіна. І тут, з вышкі памяшкання, праз пралом у даху, зразумеўшы бязвыхаднасць свайго становішча, выбраўся неаднаразова судзімы за кражы дзяржаўнай і асабістай маёмасці гр. В.Ганчароў. Гэта ён у момант прыезду міліцыі дзейнічаў сякерай, спрабуючы прабіць дыру ў падполлі. Але ці сякера была тупая, ці міліцыя вострая, але прабіцца к спіртному, цыгарэтам ён не паспеў. Трук не атрымаўся.

Вызваная на месца злачынста заг. магазіна не пашкадавала слоў на ўдзячнасць супрацоўнікам міліцыі.

**А. ЕКАЦЯРЫНЧАЎ, маёр унутранай службы**

● *Цікава ведаць?*

## НАВОШТА БЫЛО ПАЧЫНАЦЬ? або БЫЎ ТАКІ СКВЕР...

Пасадзілі яго ў 1967 годзе медработнікі горада па пустым тады кавалку зямлі паміж Мінскім шасэ (зараз вул. Якубоўскага) і чыгункай. Ад т.зв. Гарбатага моста да раённай кацельні № 2. Добра пасадзілі. Назвалі скверам імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. І рос ён добра, цягнуліся ўгару бярозкі, ліпы, каштаны, кусцікі. Догляду не было, але не вельмі ажыўленым месцы і само расце нядрэнна. Ды не ведалі, што сквер гэты загадзя асуджаны на пагібель.

Вырак (прыгавор) яму быў закладзены ў генеральным плане горада, дзе прадугледжвалася ў дапаўненне да састарэлага Гарбатага моста, нязручнага, з малой прапускной здольнасцю, пабудаваць вялікі сучасны віадук ад плошчы Перамогі да вул. Якубоўскага.

Будаўніцтва, што ішло нямала часу (да 1985 г.), стартавала ў 1977 г. Шмат дрэў, пасаджаных дзесяцігоддзем раней, высеклі і на іх месцы пачалі адсыпку землянога насыпу. Вось з тае пары і па сёння да канца знішчаецца зялёны куток, што так і не стаў месцам адпачынку гараджан, акрамя энтузіястаў, якія прыходзілі з бутэлькай ад двух суседніх гастраномаў з мікраёнаў Мір.

Так знішчаецца і цяпер. Пры пракладцы цеплатрасы, будаўніцтве падземнага перахода і інш. Вядома, усё робіцца для агульнай карысці, тым не менш дрэўцы і дрэвы шкада...

А каб і не дужа шкадаваць і выраўняць «драўляны баланс», тады ж, калі пачалася высечка т.зв. сквера, у 1977-м на другой ускраіне горада пасадзілі пруткі, што павінны ўтварыць (таксама так званы) парк імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Парк будучыні. Нашага 21-ага стагоддзя, 3-ага тысячагоддзя.

**М. ВЕРАСЕНЬ.**

## ЗВАРОТ

**Камітэта сацыяльнай абароны работнікаў адукацыі і навукі, створанага ў Магілёўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.А.Куляшова, да ўсіх, занятых у сферы адукацыі і навукі.**

Паважаныя калегі!

Працэсы, што ідуць у краіне, і палітыка, якую праводзяць нашы ўлады, паставілі работнікаў адукацыі і навукі на грань жабрацтва, фізічнай і духоўнай дэградацыі. Па даных прафсаюза работнікаў адукацыі заработная плата ў галіне складае толькі 42% ад узроўню заработнай платы ў прамысловасці. Прэстыж настаўніцкай прафесіі, і адукацыі наогул, катастрафічна паніжаецца. Школу пакідаюць лепшыя настаўнікі, у ёй амаль не засталося мужчын. У небяспецы ўся сістэма адукацыі, а значыць і будучыня нашай Беларусі. Урад рэспублікі застаецца глухім да нашых патрабаванняў, лічыць магчымым не выконваць артыкул 34 Закона аб адукацыі. Вярхоўны Савет не кантралюе выкананне прынятага ім Закона. У гэтых умовах мы павінны самі падняцца на абарону сваіх інтарэсаў, інтарэсаў адукацыі, будучыні народаў Беларусі.

Мы павінны аб'яднацца, нас павінны пачуць і ў сталіцы, і на месцах.

У Магілёўскім педінстытуце па ініцыятыве выкладчыкаў створаны камітэт сацыяльнай абароны работнікаў адукацыі і навукі. Мы заклікаем усе педагагічныя калектывы горада і вобласці пайсці разам з намі, абмеркаваць узнікшае становішча і стварыць у кожнай школе, кожным вучылішчы, кожным тэхнікуме, кожнай ВНУ свае камітэты сацыяльнай абароны.

Мы прапануем правесці сустрэчу прадстаўнікоў камітэтаў сацыяльнай абароны ўсіх навучальных устаноў вобласці 9 кастрычніка 1992 года ў педагагічным інстытуце, выказваем надзею, што на гэтай сустрэчы мы аб'яднаемся і дамовімся аб адзінстве дзеянняў.

Мы не можам болей трываць такое жыццё!

**Кантактныя тэлефоны ў Магілёве: 26-30-08** з 16 гадзін да 17 гадзін і **24-03-27** пасля 19 гадзін.

## Камерцыйная таямніца—не шырма

Адносная свабода прадпрымальніцкай дзейнасці і адчыненасць знешняй мяжы азнаменаваліся стварэннем сумесных прадпрыемстваў. Зацікавілася іх колькасцю. На здзіўленне, у аддзеле рыначных адносін гарвыканкама гэтай інфармацыі не мелі, растлумачыўшы, што СП рэгіструюцца ў Мінску і праз іх аддзел ніяк не праходзяць.

У адзеле знешніх эканамічных сувязей аблвыканкама я ўбачыла асобны сшытак, у якім было пералічана да 40 сумесных прадпрыемстваў. Акрамя Магілёва, на які, зразумела, прыходзіцца львіная частка усіх СП, яны маюцца таксама ў Бабруйску, Асіповічах, Крычаве і Горках. Дык хто ж з намі супрацоўнічае? Бельгія, Данія, ЗША, Фінляндыя, Кіпр, Венгрыя, Літва. Адна, а то і дзве фірмы з гэтых краін удзельнічаюць у сумеснай дзейнасці. Абсалютная большасць усіх сумесных прадпрыемстваў з удзелам Польшчы.

У статуце кожнага сумеснага прадпрыемства падрабязна і шмат распісана іх дзейнасць. І здаецца, што кожнае СП — нешта ўніверсальнае, якое выконвае, перапрацоўвае і рэалізуе усё, што душы патрэбна.

— Так, напісана тут шмат, — пацвярджаюць супрацоўнікі аддзела знешніх эканамічных сувязей аблвыканкама, — але ў канечным ліку многія з СП зводзяць сваю дзейнасць да вузкай сферы — перапродажу тавараў. альбо турызму, як, напрыклад, «Магіполь».

Так, «Магіполь» ставіў перад сабой гіганцкія мэты. Коратка: распрацоўка тэхналогіі злучэння металаў з неметаламі; вытворчасць тавараў народнага спажывання; арганізацыя народных промыслаў па вырабу мастацкіх вырабаў з дрэва, металу, каменняў і інш; вытворчасць будаўнічых матэрыялаў і г.д...

Да сур'ёзных, працуючых СП супрацоўнікі аддзела знешніх эканамічных сувязей аднеслі такія прадпрыемствы як «Бел-Коне ліфт» (Фінляндыя, вытворчасць электрарухавікоў да ліфтаў Магілёўскага ліфтабудаўнічага завода), «Гермес» (Польшча, вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі, вытворчасць і мантаж абсталявання для лёгкай і харчовай прамысловасці), «Магаліт» (Літва, вытворчасць і збыт ТНП, будаўніцтва), «Ластаўка» (Венгрыя, вытворчасць прадуктаў харчавання), «Белполекс» (Польшча, вытворчасць будаўнічых матэрыялаў), добра вядомы гараджанам «Белпак» (ЗША), «Сопотекс» (Партугалія). Вось, напэўна, і ўсё па гораду Магілёву. Але аб многіх іншых яшчэ рана казаць, таму што яны ўзніклі нядаўна, а толькі на фарміраванне статутнага фонду даецца тэрмін 6 месяцаў.

Інфармацыю аб дзейнасці сумесных прадпрыемстваў аддзел знешніх эканамічных сувязей аблвыканкама мае мізэрную, так як закон не прадугледжвае справаздачы. Куды ні глянь — усюды камерцыйная таямніца, яна, канешне, павінна быць, але не ў такім памеры.

Таму з'явіўся на свет дакумент за подпісам намесніка старшыні аблвыканкама П.М.Катушкіна, які прадпісвае дырэктарам СП, што «у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў РБ ад 4 студзеня 1992 г. № 5 «Аб лібералізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі» і тым, што некаторыя прадпрыемствы парушаюць свае статутныя патрабаванні, Магілёўскі аблвыканкам просіць інфармаваць аб дзейнасці прадпрыемства, выкананні ім статутных патрабаванняў, характары выпрабляемай прадукцыі для ўнутранага рынку і пастаўкі яе на экспарт».

Хочацца спадзявацца, што сумесныя прадпрыемствы ў хуткім часе «праінфармуюць» усіх гараджан канкрэтнымі вынікамі сваёй працы.

**В. КАНСТАНЦІНАВА.**



# Старонка чытача

● *Взгляд из провинции*

## Как нас раздевают...

### (тема с вариациями)

НУ-КА, поднимите руку, кто верил в наше знаменитое «бесплатное» образование, такое же медицинское обслуживание и тому подобные «бесплатности»?! ...Ага, ты, ты... и ты тоже?! Сколько же вас!

И не надо грешить на «Краткий курс» и «Дом политпросвещения»! Голову просто иметь надо! Ведь даже козе понятно, что бесплатный на свете только дождь (и то кое-где за него шаман до седьмого пота, под бубен...) Вам непонятно? Да-а-а. Это уже диагноз. А вы хоть задавали себе вопрос: откуда ж берутся денежки на оплату строителям за наши прекрасные школы и институты, сверхсовременные больницы, врачам и педагогам, профессуре тож? Из бюджета государства? Ну, молодцы, ну умницы! А в бюджет — откуда? Не знаете? Разъясняю для тугодумов: из вашего же кармана! В виде недоплаченного за труд, плюс сорванного подоходного налога (это твоя-то зарплата — «доход»?!).

Ну, налог — он везде налог, это надо. А вот часть труда восполняли в размере 17% — нам, 83 — «всем нам». За счет этого и держались 74 года! Так-то.

Но самое обидное, что и сейчас, уже на котором-то году перестройки, нас продолжают обдирать, как липку. Причем, не только родное (тьфу-тьфу, не к ночи сказано!) правительство, не только трудяги-биржевики, перекупщики и прочие кровопивцы плюс госторговля и иже с ними! Нас дерут все, кто может. И самое главное — под благовидными предлогами. Например, что им плохо, а нам еще ничего. Плохо железнодорожникам — повышай цены на билетики, ребята! Плохо лесорубам — вот тебе за куб той же доски цена, возведенная тоже в куб! И так далее.

Так мало того. Если раньше стоимость, допустим, работы справочного бюро на вокзалах оплачивалась из сумм стоимости тех же билетиков, то теперь не-е-т! Набираешь «005», а тебе совет из трубки: «Вы придите к нам, заплатите денежку и уж тогда мы вам любую справочку! »А задаром — шиш! Знаю-знаю, сам спрашивал.

И за адрес — денежку, за номер телефона — денежку. Скоро будет так: «Как пройти на 12-й переулок Топтыгина — «Пять рублей — скажу». А чё — все в рынок, так в рынок! «Где прокурор?» — спрашиваешь? Погоди, дружок, скоро за «посадку» и прокурор потребует. Рынок, так рынок.

Или взять вот этих, риа... реа... билитируемых, ч-ч-чёрт, простите. Люди, конечно не виноваты, что их самих, или родственников, кого безвинно сослали, кого в лагере гноили, кого вообще... Это я понимаю, это всем сердцем. У самого дедушку аж в Сибирь... И надо же, конечно же, им ущерб возмещать, и моральный, и натуральный. Только вот вопрос: за чей счет?

Конечно, в каком-нибудь там правовом государстве провели бы расследования всякие, нашли бы тех — не нашли бы, но с них или с соответствующих «правящих и направляющих», к примеру, содрали бы, а этим выплатили бы. В том числе и моему дедушке.

А как у нас? Я, что ли расстреливал, ссылал, гноил? Нет. И не ты, и не он, и вообще те в званиях и при пенсиях, наградах и должностях даже. Так почему же из моего, твоего, нашего кармана. Если не почему, то хотя бы — за что? С нас-то? Гуманность, говоришь? Я понимаю, я сам добрый. Но почему все время, все проблемы за мой счет, а не за счет виновных?!

Возьмем тот же Чернобыль. По всем нам он шандарахнул. Все мы пьем, едим, дышим ими, радионуклидами этими. Все. Если кому-то в «чистой» зоне сразу не перепало, то сейчас активно делимся: вам мясца чуть-чуть грязноватого, вам — молочка, и вам, и вам. Всем. Не везло нам исстари: то война, то коммунизм, то Чернобыль. Народ такой мы невезучий. Но вот что беспокоит: согласно решению родного (тьфу-тьфу, чтоб не сглазить!) Верховного, отдельным гражданам, рисковавшим здоровьем и самой жизнью («ликвидаторы» называются) положено на поправку здоровья и вообще, дополнительно коечто: гречка, там, путевочка, проезд-отъезд и так далее. Ну и пусть, говоришь? Надо же, а то я сам не догадался бы! Конечно, пусть. Я — за. Но — из чьего кармана?

Если «там» было бы — знаешь из чьего? Нашли бы и «Атомпром», и «Горепроект» и всех, кого надо, с них бы высчитали, пострадавшим бы выплатили. Так надо, и так должно быть.

А что у нас: я, ты, он, она — каждый день божий жующие, пьющие, вдыхающие эти самые «микрорентгены», должны платить тем, кто их съел, выпил, вдохнул больше нас. За что, братцы?! Как это с международным правом согласуется, когда пострадавший и страдающий платит другим страдающим и пострадавшим за то, что они пострадали? В том числе и тем, которые повинны в том, что меня, тебя, ее, его «опылили».

Так мало того — на горе нам этих самых «ликвидаторов» развелось больше, чем нас самих. Сам не проверял — народ говорит: поехал такой-то начальник в «зону», провел там два часа на совещании, час за ухой — получил удостоверение и все. к нему прилагающееся. Он уже «ликвидатор!» Съездил какой-то хор, спел песенку бедным «ликвидаторам» — все члены хора и иже с ними — тоже «ликвидаторы». И мно-о-го таких «лжеликвидаторов» развелось, говорят...

Я чё хочу-то: нет, не отменять ничего, тем настоящим, кто ликвидиро-вал. Надо, пусть даже за мой счет, хотя и неприятно, и незаконно и несправедливо как-то. А вот списочки этих ликвидаторов-то — да через газету-то пропечатать. Мыслю — многие «лжеликвидаторы» сдадут свои «корочки», потому что стыдно станет, ведь народ-то кругом знает, кто как «ликвидировал». Да и прокурору бы надо поинтересоваться, кто, кому, как и за что выдал «ликвидаторские» права на льготы. И вообще, не выдать ли их и мне, и тебе, и ей, и ему. Ведь мы через свои организмы-то выводим ее, заразу эту. Кто в канализацию пока, кто — в землю, на два метра. Чем же мы хуже. Или, по крайней мере — почему за наш счет?!

Я, конечно, деревенщина, много чего не разумею. Иногда газету прочитаешь, смотришь — вроде так должно быть. А на деле не так, а через «господ» получается. Может так и надо. Я вот сказал — а вам судить, как надо. Но обидно мне: за что меня все кругом так обдирают. С моих-то «доходов»!

**С уважением Язэп, провинциал.**

## ВОЎЧЫ СТАТАК

У 1982 годзе Любоў Валабуева была зволена з працы архівіста ў архіве. Непасрэдная прычына — вывесіла ўлёткі. Інваліда з дзяцінства, Валабуеву звольнілі свае ж сябры па партыі, камуністы. Як воўчы статак, свайго таварыша загналі ў псіхушку.

Да якога часу яна не будзе мець працы?!

**В. БЫСАЎ.** (г. Крычаў).




**На здымку: партбілет.**

**Фота аўтара.**

● *Вести из Глуска.*

## Информационная блокада прорвана.

После длительного перерыва в витрине глусского кинотеатра «Орион» вновь появился информационный стенд комитета общественного самоуправления. Перерыв был вызван хищением стенда председателем Глусского поссовета В.И.Кудреевым и расследованием этой некрасивой истории. Районный суд поставил в ней точку, признав виновным В.И.Кудреева в хищении стенда и обязал его возместить нанесенный ущерб.

И вот после того, как была пресечена попытка расправиться с гласностью в Глуске, комитет общественного самоуправления вывесил стенд на прежнем месте.Теперь на нем появилась газета комитета под названием «Панорама». Ее начала выпускать редколлегия в составе 4-х человек под руководством А.В.Карaлени. В первом номере газеты — фоторепортаж о митинге на глусском стадионе, прошедшем 21 июня, информация об очередном заседании комитета, материалы о злоупотреблениях руководителей РОВД в использовании служебного автотранспорта, о суде над В.И.Кудреевым, публикации из газет «Республика», «На страже Октября», «Могилевские ведомости» о комитете общественного самоуправления, объявления об организации инициативной группы по проведению районного референдума, о доверии районному Совету народных депутатов и районной Раде БНФ.

Комитет общественного самоуправления планирует регулярно рассказывать о работе в своей газете, тем более, что районная газета «Родина» во главе с редактором Т.А.Матусевич по-прежнему отклоняет большинство материалов комитета.

**И.КИРИН.**

## Помощь пострадавшим

По просьбе глусского комитета общественного самоуправления могилевский комитет БНФ «Дети Чернобыля» выделил гуманитарную помощь для жителей деревень Калюга и Сельцы, пострадавших от пожара 11 августа. Это детская обувь, а также одежда для детей и взрослых — пиджаки, брюки, платья, кофты, нижнее белье, одеяла и т.д., поступившая из Германии.

Комитет общественного самоуправления доставил выделенную гуманитарную помощь из Могилева в Глуск и затем развез ее пострадавшим семьям, расселившимся по всему району. Транспорт для ее доставки выделил глусский райисполком.

Среди получивших помощь — многодетная семья Пинчуков из Калюги, молодая семейная пара Потачиц из Сельцов, а также десятки пожилых людей, которых огненная стихия лишила всего нажитого имущества.

# Палітычная карта горада Бабруйска

У СВОЙ ЧАС мапы (карты) былі пад вялікім сакрэтам, але гэта не магла існаваць нават у думках. Назва яе — палітычная карта горада. Тры-чатыры гады таму назад такая задача не складала цяжкасці пяцігадоваму дзіцяці. Дастаткова даць чырвоную фарбу і вывучыць тры-чатыры літары КПБ-КПСС, таксяк іх накрэмзаць, дзесьці ў баку намаляваць серп і молат — вось вам палітычная карта не толькі горада, але вобласці, рэспублікі, нават дзяржавы з былой назвай СССР. Імклівае развіццё падзей апошняга часу не маглі ўявіць астролагі, палітолагі, экстрасэнсы.

Знік адзіны магутны саюз, зніклі ў адной асобе розум, гонар, сумленне нашай эпохі. Утварыўся неабсяжны палітычны вакуум. Але свята месца пуста не бывае. У Беларусі сем палітычных партый, існуюць аддзяленні некаторых партый у нашым горадзе. Хачу выказаць свае меркаванні аб напрамках іх дзейнасці.

Аб'яднаная Дэмакратычная партыя Беларусі (АДПБ). Самая «старая» арганізацыя. Утварылася як апазіцыя КПСС. Ставіла мэты аналагічныя Дэмакратычнай партыі Расіі (старшыня М.Траўкін). Да дзяржаўнай незалежнасці ставілася невыразна: можа канфедэрацыя, а потым паглядзім. У апошні час перайшлі на ліберальныя пазіцыі. Некаторыя члены партыі зрабілі вартае жалю адкрыццё: існаванне беларускай рускамоўнай культуры. Выдавала мясцовая арганізацыя газету «Мнения и факты», дзе змяшчалі цікавыя матэрыялы з жыцця горада. У мітынгах амаль не ўдзельнічалі, лічылі, што «ситуация не созрела». Відаць, калі грамадзяне горада «созреют», то ўсе стануць прыхільнікамі АДПБ.

Навучаць нас аб'яднаныя дэмакраты жыць у рыначных адносінах. Навука вельмі простая: кідаюць у рыначную стыхію, хто выплывае — будзе плакаць разам з багатымі. Хто не выплыве — няхай вучыцца плаваць. Шкада, але гарадская газета «Бабруйскае жыццё» не змясціла ніводнай нататкі аб АДПБ.

Затое БНФ гарадская газета ўвагай не абыходзіла. Праўда, чамусьці рух адлюстроўвала толькі ў чорнай фарбе. У такой «гаме» няма нічога дзіўнага, фронт стаяў на антыкамуністычных пазіцыях.

БНФ з'яўляўся косткай у горле кіруючай наменклатуры. Нямалая заслуга прыхільнікаў фронта ў тым, што сённяшні мэр горада стаў дэпутатам гарсавета з трэцяй безальтэрнатыўнай спробы. Сябры гарадской арганізацыі пры правядзенні палітычных кампаній працуюць самаадана. Сёння гэтага мала, трэба ўдасканальваць арганізацыйную структуру. Неабходны прыход новых людзей, здольных весці больш гібкую палітыку.

Аб напрамках дзейнасці палітычных арганізацый можна меркаваць па назве. Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада (БСДГ). Нагадаю крыху гісторыі. Сацыялдэмакратыя наогул узнікла як рэакцыя рабочых на рынак з мэтай сацыяльнай абароны. Мае партыю і адпаведны гістарычны грунт — урада БНР амаль поўнасцю складаўся з беларускіх сацыялдэмакратаў. Гарадская філія мае арганізацыйную структуру, закладзены падмурак для стварэння добрай партыйнай арганізацыі.

Нацыянальна-Дэмакратычная партыя Беларусі. Нашаму розуму, затуманенаму культурай «национальной по форме, социалистической по содержанию» цяжка ўспрымаць назву партыі. Сябрам НДПБ можа быць любы грамадзянін, які ўсвядамляе сябе беларусам. Гарадская арганізацыя нешматлікая, моладзь, усебакова падрыхтаваная ў пытаннях мовы, гісторыі, культуры.

Поўнай процілегласцю па ўзросту сябрам НДПБ з'яўляецца старая-новая ПКБ. Гарадская арганізацыя налічвае адносна вялікую колькасць членаў. Наш горад непрацяглы час будзе запаведнікам камунізма, хоць ва ўсіх цывілізаваных краінах камуністы зніклі з палітычнай арэны.

У ПКБ не будзе света за кіруючым сталом. Не падтрымае дырэктарскі і прадпрымальніцкі корпус. Апошняму няма часу хадзіць на партыйны дыван, прытрымлівацца генеральнай лініі, плаціць асабісты партыйны падатак. Камуністы Беларусі спяваюць старыя песні, засталося ім праспяваць яшчэ адну — лебядзіную. У размове з членам партыі камуністаў я параўнаў іх з мамантамі, якія існуюць у спрыяльным клімаце хлусні, палітыканства, таннага папулізма.

Не прыгадаў яшчэ адну партыю, але па сваёй сутнасці яна антыканстытуцыйная. Мяркуючы па выступленню ў газеце «Бабруйскае жыццё» прыхільніка ВКПБ (Усесаюзная Камуністычная партыя бальшавікоў) А.Крывіцкага мае справу з камуністамі-фундаменталістамі. ВКПБ прынесла незлічоныя пакуты ўсім народам. Спадзяюся, што свядомасць і розум людзей не атруціць трупны яд бальшавізма.

Чытачам газеты намаляваў як мог палітычную карту горада. Расфарбаваць яе не складана. АДПБ, БНФ, БСДГ, НДПБ колер бела-чырвона-белы, у сацыял-дэмакратаў — пасярэдзіне ружа. Аб'яднаныя дэмакраты дзе-нідзе адчуваюць настальгію па колеру расійскага сцяга. ПКБ мае чырвоны колер, а вось згаданая ВКПБ мае карычневатыя цені.

**М. ВЯРЫНСКІ,**
**старшыня гарадской арганізацыі БСДГ.**

